# НАВІНКІ

28 лістапада - 5 сьнежня 2002 №27(76) Кошт свабодны




# Газуй, Ваван!

Абацаю, што ў наступным годзе праблемаў з пастаўкамі расейскага газу ў Беларусь ня будзе.

На двухбаковай сустрэчы прэзыдэнтаў Беларусі і Расеі, якая адбылася 27 лістапада ў Валынскім, нарэшце была «ўрэгуляваная» газавая праблема, як і шэраг іншых траблаў, што цягам усёй восені псавала дачыненьні паміж дзьвюма краінамі. Беларусь на Захадзе не прынялі. Цікава, чым ахвяравала Беларусь, каб зноў быць «ко двору» ў Крамлі?

## Хто мы?

Бульбашы або грантасосы?


Дасьледаваньне на **стар. 3**


## САМАГОНШЧЫКІ


Стар. 4-5


## Сьвята інцярэснага кіна





Рэпартаж на стар.7


## СКАНВОРД

### Ці ўважліва вы чытаеце газэту «Навінкі»?

Шаноўныя чытачы. Прапануем вашай увазе невялічкі перадкалядны конкурс на засваеньне матэрыялу нашай газэты. Ад вас патрабуецца адгадаць нескладаны сканворд на стар.8 і даслаць яго на адрас рэдакцыі разам з 4 рознымі выразанымі лягатыпамі нашай газэты (каб на іх было відаць нумар і чысло выхаду газэты) да 20 сьнежня. Пераможцы атрымаюць навагоднія прызы. Галоўны прыз — 1 млн. бел.руб.

Каб дапамагчы вам у нялёгкай справе адгадваньня сканворду прапануем вам ключавое слова:

«Якая кантроа падзе перад надыходзячай прыватызацыяй?»


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 28.11.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 328

## СКАНВОРД

# Ці ўважліва вы чытаеце газэту «Навінкі»?

Беларуска-літоўскі газаправод

Тутэйшы прадстаўнік этнасу

Чэсная газэта

Граза апазыцыі гарант

Мара турыста і прэзыдэнта

Маскоўская душагубка

Заслужаны народны паэт

Страла двух братніх прэзыдэнтаў

Бацькаў недруг

Украінскі Завадзкі

Яблык раздору

Бацькаў корыш

Родныя пэнаты

Палучка апазыцыі

Месца выгулу апазыцыі

Гл. вышэй

Кампанэнт дэмакратычнай мукі

СПОРТ

Стратэгічны вораг славянаў

Блізкі партнэр Беларусі

Капец усяму

Менскае стрыт-шоў

Сын беларускага народу

Хімік-ударнік

1. 2. 3. 4. 5. 6. 7. 8. 9. 10. 11.

